Чаму бухгалтары баяцца КРУ стр.2

Мужчына з Дзятлава сваю каханую прыкоўваў да батарэі ацяпленне наручнікамі стр.2




# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.*

№ 10 (143). 2 — 8 сакавіка 2000г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт 60 руб.




## Слонімскія "МАРЖЫ"

**Гледзячы на здымкі фотакарэспандэнта "ГС" адчуваецца, што ў Слонім для гэтых людзей зіма не прыходзіла. У любое надвор'е мужчыны і жанчыны акунаюцца ў халодную ваду. Іх у народзе называюць "маржамі"... "Маржамі" не нараджаюцца, імі становяцца. І перш чым акунуцца ў ледзяную палонку, яны праходзяць доўгі перыяд загартоўвання. Гледзячы на іх, бярэ шчырая зайздрасць, бо праўду кажа народная прымаўка: у здаровым целе — здаровы дух.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Фота Віталя ГІЛЯ



Фота Віталя ГІЛЯ

навіны

## Люди, очнитесь!

**Валентина Гончар, мать бесследно исчезнувшего 16 сентября 1999 года первого вице-спикера Верховного Совета Беларуси 13-го созыва Виктора Гончара, обратилась с открытым письмом к гражданам Беларуси.**

"Что я пережила за это время, сколько слез пролила, знают лишь те безлюдные дорожки, по которым я хожу, лишь измятая от бессонницы и мокрая от слез подушка, лишь Господь Бог, к которому я обращаюсь каждую секунду с горячей мольбой, — пишет Валентина Гончар. — Жива я только потому, что очень надеюсь еще хоть раз услышать знакомый голос, заглянуть в родные глаза, убедиться, что мой сыночек жив и невредим, и в ту же минуту готова умереть... Перестало взахлеб кричать официальное телевидение и пресса, обвиняя моего сына в грязных играх, — к этому я относилась достаточно равнодушно. Сейчас ситуация еще хуже: ведется политика умалчивания. Лишь изредка промелькнет очередная лживая публикация: видели в Лондоне или еще где-то... Белорусы, очнитесь! Люди у нас в "свободной, демократической, счастливой" стране пропадают! Это может случиться с каждым, а по телевидению по-прежнему будут транслировать песни и пляски! Сынок мой пропал! Для меня он не видный политический деятель, не оппозиционер, а сыночек, милый, добрый, сентиментальный, любящий. Вырос, работал с утра до ночи, никому ничего плохого не сделал. И вот награда..."

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## Новы радыёканал на Слонімшчыне

**1 сакавіка на тэрыторыі Слонімшчыны пачалося вяшчанне мінскага радыёканала "ВА".**

"ГС" ужо пісала, што напрыканцы мінулага года ішлі выпрабавальныя перадачы "ВА". І вось цяпер, калі кіраўніцтва радыёстанцыі дамаглося дазволу на камерцыйную дзейнасць на Гродзеншчыне, радыёканал будзе стала гучаць у эфіры (частата 101,5 МГц FM).

**Сяргей ЁРШ**

**Паважаныя чытачы!**

Вы, відаць, не ўсе выпісалі "Газету Слонімскую" на першае паўгоддзе 2000 года, а толькі на квартал. Першы квартал ужо завяршаецца. Таму ў гэтыя дні не забудзьце завітаць на любое паштовае аддзяленне і падпісацца на "ГС" на другі квартал бягучага года. Кошт падпіскі на 1 месяц усяго 200 рублёў. Наш падпісны індэкс — 64042.

На "Газету Слонімскую" могуць падпісацца жыхары Слонімскага, Зэльвенскага, Мастоўскага і Дзятлаўскага раёнаў.

## "Тэкстыльшчык" пакажа сябе ў Маскве

**40 новых відаў прадукцыі слонімскай фабрыкі "Тэкстыльшчык" будуць прадстаўлены на міжнароднай выставе тавараў лёгкай прамысловасці "Вясна-2000", якая адбудзецца 28-31 сакавіка ў Маскве.**

Коўдры, ручнікі, настольніцы і жаночыя хусткі зроблены рукамі мясцовых майстрых.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Ставка квартплаты увеличилась

**В Беларуси вновь выросли квартирная плата и тарифы на коммунальные услуги населению.**

Ставка квартплаты увеличилась на 8,4 процента и составила 2,43 деноминированных рубля за один квадратный метр общей площади.

Тарифы на подогретую и холодную воду, а также канализацию проиндексированы на 8,6 процента, газ — на 8 процентов, вывоз и обезвреживание отходов — на 7,7 процента, центральное отопление — на 2,1 процента.

На прежнем уровне остались тарифы за пользование лифтом (40 рублей на одного человека) и радиоточкой (60 рублей за единицу).

Напомним, что 1 февраля на 30 процентов выросли тарифы за пользование электроэнергией. Стоимость одного киловатта электроэнергии для населения городов, проживающего в домах с газовыми плитами, равна 1,8 рубля; для населения городов, проживающего в домах с электроплитами, а также для жителей сельской местности — 1,3 рубля.

**БелаПАН**

## У Мастах наводзяць парадак

**У Мастоўскай лякарні паспешна ідзе рамонт.**

У першую чаргу адрамантавалі службовыя кабінеты, і толькі пасля гэтага — памяшканні, дзе знаходзяцца хворыя. Прычынай усяму тое, што адміністрацыя бальніцы чакае камісію, якая павінна прыехаць з дня на дзень.

Акрамя таго, у крамах горада прылаўкі забітыя рознымі прысмакамі, якія людзі даўно не бачылі. У прыватнасці, у Мастах можна свабодна купіць шынкі, каўбасы, йогурты ды інш. Былі б толькі грошы.

**Антон МАКЕЙ**

здарэнні

## Знікла дзяўчынка

**У мінулую суботу ў Мастах здарылася страшная трагедыя.**

Чатырохгадовая дзяўчынка пайшла да Нёмана і знікла. Людзі мяркуюць, што яна патанула ў рэчцы. Цела яе не знойдзена.

**Антон МАКЕЙ**

## "Пеўнік" у агні не згарэў

**24 лютага, апоўначы (у 1 гадзіну 24 мінуты) на пункт сувязі ваенізаванай пажарнай службы паведамілі пра пажар на тэрыторыі Слонімскай птушкафабрыкі, якая знаходзіцца ў вёсцы Разанаўшчына Слонімскага раёна.**

Па трывозе на месца здарэння выехалі тры пажарныя аддзяленні. Не гледзячы на актыўныя дзеянні пажарных, агонь пачаў распаўсюджвацца па канструкцыях будынка кацельні, і ўзнікла пагроза загарання магазіна "Пеўнік". Аднак агонь усёж удалося ўтаймаваць. Устаноўлена і прычына пажару — няспраўнасць акумулятара вады кацельні.

Пры тушэнні пажару вызначыліся камандзір аддзялення Аляксандр Буркала, пажарны Андрэй Каранец і вадзіцель Міхась Гайко.

**Васіль РУБЕЦ,**
начальнік атрада ваенізаванай пажарнай службы №16

## Абрабавалі дачы

**27 лютага адразу восем слонімцаў звярнуліся ў міліцыю.**

Па іх словах, невядомыя абрабавалі іх дачныя домікі, якія знаходзяцца каля вёскі Якімавічы Слонімскага раёна. Злодзеі бралі ўсё, што трапляла пад рукі: коўдры, посцілкі, дывановыя дарожкі, сякеры, рыдлёўкі і іншыя гаспадарчыя рэчы.

## Бычкі да свята

**23 лютага, калі працаўнікі калгаса "1 Мая" Слонімскага раёна адзначалі свята абаронцаў Айчыны, невядомыя ўкралі з жывёлагадоўчай фермы вёскі Мілаванне два бычкі.**

Міліцыя вядзе пошук злодзеяў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Верховный суд отменил 1282 приговора

В 1999 году решением Верховного суда Беларуси было отменено 1 тысяча 282 приговора судов нижестоящих инстанций, что составляет 2 процента от числа рассмотренных Верховным судом дел. Такие данные привел в своем докладе на коллегии Министерства юстиции председатель Верховного суда Валентин Сукало.

По его словам, кассационные жалобы, по которым проводит разбирательство Верховный суд, по статистике подают всего 25 процентов осужденных. Это значит, сказал В.Сукало, что 75 процентов дел находится вне поля зрения Верховного суда. Всего же в 1999 году судами были осуждены 59 тысяч 862 человека.

**БелаПАН**

Слонимским ГРОВД устанавливается личность неопознанного трупа мужчины, обнаруженного 11.04.1998 года в квартире №36 дома №3 по ул.Я.Купалы г.Слонима.



Его приметы: на вид 25-30 лет, рост около 190 см, худощавого телосложения, волос русый средней длины, вьющийся, имеет лобное облысение, глаза голубые.

Был одет: куртка удлиненная из плащевой ткани, имеются вставки зеленого цвета, рубашка х/б голубого цвета, брюки черного цвета, туфли из кожи черного цвета на шнурках, майка зеленого цвета.

Особые приметы: на правом плече татуировка в виде букв П, В, обвитых коброй, по сторонам цифры 90-92, внизу надпись "Афганистан-СССР".

Просьба ко всем гражданам, которым что-либо известно о личности устанавливаемого мужчины, сообщить в Слонимский ГРОВД по телефонам: 2-38-02, 2-18-02, 2-44-02 или 02.

# У ПОШУКАХ "СПЛЫЎШЫХ" МІЛЬЁНАЎ

**— Чаму бухгалтары так баяцца КРУ (кантрольна-рэвізійнае ўпраўленне)? — такое пытанне было адрасавана галоўнаму кантралёру-рэвізору КРУ па Слонімскаму раёну Івану Кобусу.**

У адказ ён засмяяўся:

— Не ведаю. Баяцца тыя, каму ёсць чаго баяцца, у чыёй працы — нейкія недахопы... Павінен перш за ўсё патлумачыць, што КРУ — гэта структура Міністэрства фінансаў рэспублікі. Функцыя КРУ — чыста кантралюючая. Інакш кажучы — праверкі, рэвізіі на прадмет выкарыстання дзяржаўных бюджэтных сродкаў на ўсіх узроўнях.

Аснова работы КРУ нашага ўзроўню — гэта планы праверак на паўгоддзе, якія па заданню Мінфіна даводзяцца нам аблфінупраўленнем. Мы працуем у цесным узаемадзеянні з праваахоўнымі органамі. Не застаемся абыякавымі і да розных сігналаў, скаргаў...

***— Іван Дзмітрыевіч, у чалавека, далёкага ад вашай сферы, можа скласціся ўражанне, што КРУ любога ўзроўню — гэта орган кантролю выключна для дзяржаўных прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў?..***

— Сёння вельмі складана сказаць, якое прадпрыемства адарвана ад бюджэту, ад дзяржавы. Усё роўна так ці інакш ёсць выхад на бюджэт. Размова ідзе пра розныя плацяжы... А значыць, мы можам правяраць арганізацыі ўсіх форм уласнасці.

***— І на што, часцей за ўсё, незаконна трацяцца дзяржаўныя сродкі?***

— На завышаную аплату падрадным арганізацыям за будаўніцтва і рамонт аб'ектаў сацыяльнай сферы. Часам бухгалтары і кіраўнікі прадпраемстваў выкарыстоўваюць бюджэтныя сродкі з дапамогай прыпісак, скажэння ўліковых і справаздачных дадзеных, неабгрунтаванага спісання і выплат грашовых сродкаў.

***— Ці былі ў выніку работы вашай службы выяўлены буйныя сумы незаконных расходаў дзяржаўных грошай?***

— У 1997 годзе на працягу чатырох месяцаў рабілі рэвізію на аптова-гандлёвай базе райспажыўсаюза, падчас якой была выяўлена нястача матэрыяльных каштоўнасцяў на суму больш як 55 мільёнаў тагачасных рублёў.

За 1999 год рэвізіямі і праверкамі на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах выяўлены ўрон дзяржаве на суму 734,4 тысячы рублёў. Прадухілена незаконных і нямэтавых расходаў на суму 1 млн. 80 рублёў, дадаткова даналічана ў бюджэт дзяржавы плацяжоў і іншых сум у памеры 1 млн. 345 тысяч рублёў.

***— Ці шмат з выяўленых незаконных растрат вернута дзяржаве?***

— У 1999 годзе 69% ад усіх незаконных растрат вернута ў дзяржаўную казну. Выключэнне складаюць незаконныя расходы, якія зроблены асобамі, што памёрлі альбо знаходзяцца ў вышуку.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## здарэнні

### Замерзла на дарозе

**77 гадоў пражыла грамадзянка Н. з пасёлка Наваельня Дзятлаўскага раёна, а смерць прыняла жахлівую.**

Яна ўпала на Пасялковай вуліцы, не магла ўстаць і памерла ад пераахаладжання арганізма.

### Каханне ў наручніках

**Жыхар пасёлка "Гезгалы" Дзятлаўскага раёна М. вынайшаў свой метад узаемаадносін з каханай дзяўчынай.**

Каб каханая нікуды не збегла, ён прыкоўваў яе да батарэі ацяплення наручнікамі.

За гэта ён быў аштрафаваны судом Дзятлаўскага раёна.

### Машына са спіртам

**На тэрыторыі Дзятлаўскага раёна супрацоўнікамі міліцыі была затрымана аўтамашына "Мерседэс-Бэнц", у якой было выяўлена 1400 літраў спірту.**

Жыхары горада Бабруйска прывезлі яго на Гродзеншчыну для рэалізацыі. Ёмістасці са спіртам былі замаскіраваны піламатэрыяламі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Цікава, але неарганізавана

**У Мастоўскім РДК прайшоў заключны тур раённага агляду святаў і абрадаў.**

У ім прынялі ўдзел 6 сельскіх ДК са сваімі праграмамі: Струбніцкі — "Свята тройцы", Дубненскі — "Гэй, калядзіца!", Котчынскі — "Вясельны каравай", Пацавіцкі — "Заручане", Харціцкі — "Беларускія вяснянкі". Усе ўдзельнікі свята ў сваіх выступленнях раскрыліся як прафесійныя творчыя калектывы, паказаўшы арыгінальныя пастаноўкі. Вось толькі гледачоў не было. І ўвогуле не было ніякай арганізацыі. Нават не было вядучага агляду. Ніхто не прадставіў ні ўдзельнікаў мерапрыемства, ні іх праграмы, не назваў складу журы. Вясковыя артысты самі называлі свае нумары, расстаўлялі на сцэне дэкарацыі. Было такое ўражанне, што калектывы трымаюць справаздачу перад загадчыкам раённага аддзела культуры Уладзімірам Свістуновым і прадстаўніком з вобласці Соф'яй Лойка.

Па выніках конкурсу былі вызначаны тры калектывы з Котчынскага, Струбніцкага і Харціцкага сельскіх клубаў для ўдзелу ў абласным аглядзе.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Развіталіся з зімой

**У апошнюю нядзелю лютага ў Мастах прайшла Масленіца.**

Свята адбылося на пляцоўцы побач са стадыёнам "Нёман". На яго сабралася некалькі тысяч мастаўчан. Як для дарослых так і для дзяцей была арганізавана культурная праграма. Мясцовая кааперацыя выставіла буфеты, але выбар тавараў быў небагаты. Тыя, хто хацеў нешта набыць, ішлі на рынак. Побач з буфетамі бабкі прадавалі семкі. Аматары маглі адведаць шашлыкі ды моцныя напоі. Паколькі не было снегу, то дзеці ездзілі на конным возе, і іх гэта вельмі радавала.

**Антон МАКЕЙ**

## Дискриминация

**Руководители шести крупнейших негосударственных белорусских газет обратились к исполняющему обязанности премьер-министра Беларуси Владимиру Ермошину с открытым письмом.**

В нем сообщается, что несколько дней назад в редакции поступило официальное уведомление об очередном повышении тарифов на услуги по доставке газет подписчикам. "С учетом совсем недавнего повышения, в начале года, общий рост тарифов на услуги "Белпочты" составил 400-600 процентов. К настоящему времени положение таково, что услуги доставки стоят больше, чем расходы на создание самой газеты, — говорится в открытом письме. — Бремя оплаты расходов по доставке периодических изданий ложится на самого читателя, вынужденного из своего кармана оплачивать неэффективность хозяйственного госмонополиста, каким является "Белпочта". С другой стороны, "подрывается экономическая основа деятельности негосударственных изданий, стремящихся объективно информировать читателя о событиях в республике".

В то же время издания, пользующиеся государственными дотациями, имеют значительные льготы от "Белпочты", отмечается в письме: "Налицо явное нарушение конституционных принципов свободы печати, а также предоставления равных условий всем субъектам хозяйствования".

В письме содержится просьба к В.Ермошину принять срочные меры в отношении решения проблем независимой прессы. Подписи под этим документом поставили главные редакторы газет "Народная воля", "Белорусская деловая газета", "Белорусская газета", "Свободные новости", "Белорусский рынок" и "Комсомольская правда в Белоруссии".

**БелаПАН**

# ТАЙНЫЕ РЕЙСЫ "АЛВИКОМА"

**В Слонимском городском суде закончился процесс по делу Виктора Сайгака и Александра Хомко. Они обвинялись в сокрытии прибыли и в неуплате налогов.**

В 1997 году по их инициативе было зарегистрировано общество с ограниченной ответственностью "Алвиком" (ООО "Алвиком"). Сайгак был директором, а Хомко — его заместителем. В соответствии с Уставом предприятия эта фирма могла заниматься транспортными перевозками, строительством, а также торгово-закупочной деятельностью. Однако предприятие в основном оказывало услуги по перевозке грузов. Поскольку собственных машин у фирмы не было, они арендовали их у различных предприятий и организаций. Хотя в "Алвикоме" и не были разработаны должностные обязанности работников, принимать заказы стал Хомко. В течение 1998 года предприятие оказывало услуги по грузоперевозкам с условиями оплаты, как за безналичный, так и наличный расчет. Но в "Алвикоме" почему-то отдавали предпочтение наличному расчету и в иностранной валюте.

Например, водителю В. Якубчику польская сторона в счет оплаты услуг ООО "Алвиком" передала 2000 долларов за рейс в Магнитогорск. Деньги были потрачены на командировочные расходы. Водитель Ю. Герко показал в суде, что работая в "Алвикоме" на протяжении года сделал 10 рейсов в разные концы Европы. Ему выдавались деньги на командировочные расходы в размере от 100 до 500 долларов. Например, на поездки в Польшу он получал по 100-150 долларов, в Молдавию — 300-500 долларов. За полученную валюту Герко нигде не расписывался.

А шофер И. Яговдик пояснил суду, что весной 1998 года он ездил в Венгрию. По прибытии туда у него закончились деньги, выданные на командировочные расходы. После его звонка в "Алвиком", ему в Венгрии было выдано еще 500 долларов. Валюту, полученную от клиентов за оказанные услуги, он отдавал Сайгаку либо Хомко. Последние поясняли, что эти средства пойдут на командировочные расходы и ремонт техники, и что позже будет выплачиваться хорошая зарплата, а пока, мол, надо потерпеть.

В процессе судебного разбирательства было также установлено, что в "Алвикоме" бухгалтерский учет велся в виде черновых записей. А ведомость "О совершенных операциях по отгрузке и реализации услуг" не велась вообще.

Финансово-хозяйственную деятельность проверила Слонимская налоговая инспекция. Было установлено, что неотражение по бухгалтерскому учету всех совершенных рейсов и выручки от них в сумме 1434823000 неденоминированных рублей привело к сокрытию прибыли в сумме 1136015000 рублей. В связи с этим не было выплачено налога на прибыль в сумме 340805000 рублей, налога на добавленную стоимость в сумме 227203000 рублей.

Кроме полного признания своей вины в совершении преступления, вина Виктора Сайгака и Александра Хомко полностью подтвердилась собранными по делу доказательствами.

Суд приговорил Сайгака и Хомко к штрафу в сумме 29 миллионов деноминированных рублей каждого.

**Валентин ЧУРИЛО**

# ІЛЬГОТНЫЯ КРЭДЫТЫ ЧАСОВА НЕ ВЫДАЮЦЦА

**Нядаўна рэдакцыя "ГС" атрымала пісьмо ад нашай чытачкі Таццяны (на жаль прозвішча яна не назвала) са Слоніма, у якім яна просіць растлумачыць, што ўяўляюць сабой ільготныя крэдыты для набыцця хатняй маёмасці і чаму Слонімскі філіял ААБ "Беларусбанк" у цяперашні час іх не выдае.**

Як паведаміла карэспандэнту "ГС" дырэктар Слонімскага філіяла ААБ "Беларусбанк" Ніна Аўдзейчык, адзін з пунктаў Указа прэзідэнта РБ №358 ад 10.09.96 "Аб мерах па паляпшэнню жыллёвых умоў моладзі" прадугледжвае: "...выдзяленне ў першачарговым парадку маладым грамадзянам для набыцця хатняй маёмасці льготных крэдытаў тэрмінам да 3 гадоў з выплатай 10% гадавых за карыстанне імі". Прычым крэдыты выдаюцца толькі тым маладым сем'ям, якія жывуць асобна ад бацькоў. Сям'я, якая набыла рэч па льготнаму крэдыту, на працягу трох гадоў не мае права яе падараваць, абмяняць ці прадаць. Ільготны крэдыт наяўнымі грашыма не выдаецца, а неабходная сума пералічваецца банкам на разліковы рахунак гандлёвага прадпрыемства.

Па стану на 1 лютага 2000 года 120 маладых слонімцаў атрымалі льготныя крэдыты на агульную суму 2,5 млрд. дэнамінаваных рублёў, 80 з якіх ужо вярнулі атрыманыя сумы.

У сувязі з выплатай кампенсацыі за абясцэненыя ў свой час уклады філіял банка панёс вялікія страты. Па стану на 1 студзеня 2000 года ўкладчыкам выплачаны кампенсацыі на суму 59 млн. дэнамінаваных рублёў. Цяпер банк не мае уласных грашовых рэсурсаў, а таму выдача льготных крэдытаў маладым сем'ям часова спынена.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
.............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 29 лютага 2000г.
Час падпісання 16:00.
Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8500 экз.
Заказ №893

# СВЕДКА

**Нядаўна ў слонімскай бальніцы памёр Васіль Васільевіч Струпавец.**

Яшчэ ў 1997 г. наша газета пісала пра гэтага чалавека, пра яго лёс. У 1943 годзе група савецкіх партызан расстраляла ў вёсцы Якімавічы Слонімскага раёна сям'ю Струпаўца: бацьку, маці, двух братоў і маленькую сястру. Сам Васіль Струпавец быў цяжка паранены, але выжыў, на ўсё жыццё застаўшыся інвалідам...

У вёсцы і навакольных хутарах савецкія партызаны закатавалі амаль 50 мірных жыхароў, пераважна жанчын, дзяцей і старых. Адзін з галоўных сведкаў гэтых злачынстваў Васіль Струпавец доўгі час шукаў праўду, дамагаўся суда над забойцамі. Аднак ні пры савецкай уладзе, ні пры сённяшнім рэжыме ён так і не дамогся гэтага суда (а Струпавец хацеў, каб усё было па закону, без самасуда). Наадварот, у 1997 г. улады наладзілі праверку праўдзівасці фактаў, прыведзеных у шэрагу публікацый па "якімавіцкай справе". Яе праводзілі супрацоўнікі дзяржбяспекі. Факты пацвердзіліся, але на гэтым справа была закрыта...



*Васіль Струпавец, лета 1997г.*

Тым не менш, удалося прарваць заслону маўчання. Пра вёску Якімавічы цяпер ведаюць не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Рэпартажы пра расстраляных лясныімі бандытамі мірных жыхароў прайшлі па польскаму радыё, на радыё "Свабода". У 1998 годзе на тэлебачанні Вільні быў паказаны дакументальны фільм, які ў Якімавічах і Слоніме здымала тэлежурналіст Тацццяна Дубавец.

Апошняй воляй Васіля Струпаўца было пахаваць яго на вясковых могілках у Якімавічах, каля агульнай магілы ягонай сям'і, ды пакрыць труну нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам. Яго пажаданні былі выкананы.

**Сяргей ЁРШ**

## навіны

### Старшыняў калгасаў выбіраюць у... райвыканкаме

**Усе гады існавання калгаснага ладу старшыняў калгаса фармальна выбіраў сход калгаснікаў, але, як заўжды, з падачы раённага кіраўніцтва.**

Бывалі асобныя выпадкі, калі сяляне пярэчылі ўладзе. Зараз яны пазбаўлены і гэтай магчымасці. У снежні 1999 года Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіў новае палажэнне аб парадку заключэння кантрактаў з кіраўнікамі сельскагаспадарчых прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці.

У бягучым годзе Мастоўскі райвыканкам не прадоўжыў кантракты з наступнымі кіраўнікамі гаспадарак: "Маяк" — В.Жуком, "Савецкая Беларусь"— В.Бічом, "Прагрэс" — К.Новікавым, імя А.Міцкевіча — Б.Маліноўскім.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Масты грыпуюць

**Мастоўскае тэрытарыяльнае медыцынскае аб'яднанне аб'явіла каранцін.**

У некаторых класах школ раёна на занятках адсутнічае амаль палова вучняў.

**Антон МАКЕЙ**

# НОВЫЕ РАЗМЕРЫ ПОСОБИЙ ДЛЯ ПОСТРАДАВШИХ ОТ ЧЕРНОБЫЛЬСКОЙ КАТАСТРОФЫ

**Совет Министров Беларуси установил новые размеры пособий и доплат, предусмотренных статьями закона "О социальной защите граждан, пострадавших от катастрофы на Чернобыльской АЭС".**

В постановлении правительства, в частности, определяются новые размеры ежемесячного денежного пособия на каждого члена семьи, ежемесячной фиксированной доплаты работающим гражданам, неработающим пенсионерам, а также гражданам, получающим пособия, студентам вузов и учащимся средних специальных и профессионально-технических учебных заведений. Минимальный размер пособий и доплат — 202 рубля — предусмотрен сейчас для учащихся, проживающих в зоне с периодическим радиационным контролем, максимальный — 2.426 рублей — для работающих лиц, проживающих в зоне эвакуации (отчуждения).

564 рубля составляет ежемесячная фиксированная доплата работникам, занятым в зоне проживания с периодическим радиационным контролем и на территориях, не загрязненных радионуклидами, при постоянной мощности дозы внешнего излучения на рабочем месте более 50 микрорентгенов в час.

Комментируя БелаПАН данное постановление, начальник отдела социальной защиты Комитета по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Владимир Кудин отметил, что новые размеры пособий и доплат приведены в соответствие с ростом минимальной заработной платы. Последний раз ее размер увеличился 1 января 2000 года и сейчас составляет 2.200 рублей.

**БелаПАН**

## споведзь

# Нявеста без вэлюма

Перад самым ад'ездам у ЗАГС дачка раптам закапрызнічала:

— Мама, ты паглядзі, як недарэчна сядзіць на мне вясельная сукенка. У таліі трэба трошкі падшыць.

— Калі шыць? — пытаю. — Жаніх вось-вось прыедзе. Не выдумляй, чаго не трэба.

Насця, адзінае дзіця ў сям'і, спешчанае і капрызнае, ніколі ні ў чым не ведаючы адказу, раптам залілася слязамі. Прыйшлося супакойваць, угаворваць, каб хоць не мець ганьбы перад Віцем (жаніхом) ды перад сватамі.

У ЗАГС мы не спазніліся. І калі заходзілі ў калідор, з залы рэгістрацыі шлюбаў выйшлі маладажоны, якія толькі што распісаліся. Нявеста трымала ў руках сціплы букецік кветак. Была прыбрана ў беленькую сукенку, але без вэлюма. І жаніх таксама быў апрануты без прэтэнзій на моду. З імі былі двое сведкаў — дзяўчына і хлопец. І ўсё. Больш нікога. Не тое, што ў нас — цэлы натоўп шыкоўна апранутых гасцей.

Мне кінулася ў вочы, што супрацоўніца ЗАГСа аднеслася да гэтай маладой пары з асаблівай цеплынёй. Відаць, яны былі знаёмыя.

— Пішы мне, Танечка. Як уладкуецеся там, абавязкова напішы, — папрасіла на развітанне.

— Добра, — прыязна ўсміхнулася нявеста, і на яе твары з'явіліся дзве прыгожыя ямачкі.

І яшчэ мне кінулася ў вочы, што нявеста даволі моцна кульгае на правую нагу...

Разважаць не было калі, бо ў залу для рэгістрацыі шлюбаў зайшла дачка з будучым зяцем, і ўсе мы дружна хлынулі за імі.

За вясельнай мітуснёй, за Насцінымі капрызамі, якімі яна за гэтыя дні мяне проста знервавала, я неяк забылася пра тую сустрэчу ў ЗАГСе. А потым, калі ўсё закончылася, калі маладыя пайшлі жыць у сваю трохпакаёвую кватэру, якую мы з мужам падарылі ім на вяселле, я ўсё часцей і часцей пачала ўспамінаць пра нявесту без вэлюма. Нейкая сіла не давала спакою, цягнула ў тыя ўспаміны, як цягне забойцу на месца злачынства. Пачала прыгадваць, аналізаваць і з жахам зразумела, што нявеста без вэлюма — мая старэйшая дачка, якую я некалі кінула на волю лёсу дзеля ўласнай выгады, дзеля свайго, як тады здавалася, шчасця. Было так шмат супадзенняў, што ўсе сумненні адпалі: гэта яна, мая маленькая Танечка.

... Я нарадзіла сваю дзяўчынку ў васемнаццаць гадоў. Вельмі кахала аднаго хлопца з нашай вёскі, не сумнявалася, што пажэнімся. Зацяжарала. А ён пасля гэтага не захацеў мяне ведаць. Не дапамаглі ні слёзы, ні папрокі. А тут раптам памёр бацька, і засталася я круглай сіратой, бо мама памерла даўно.

Нарадзіла дзіця ў горадзе. Туды мяне забрала цётка — бацькава незамужняя сястра. Яна і Танечку дапамагла гадаваць. Жылі мы някепска. Малой ужо было пяць гадзікаў, калі я на дні нараджэння ў сяброўкі пазнаёмілася са сваім Мікалаем Сідаравічам. Быў ён старэйшы за мяне, салідны, пры грашах і немалой пасадзе. Сям'і не меў.

Нас пасваталі. Але калі Мікалай Сідаравіч даведаўся, што ў мяне ёсць дачка, што яна кульгавая, сказаў катэгарычна:

— Ты мне падабаешся, і я гатовы з табой ажаніцца, толькі дзіця мне тваё не патрэбна. Тым больш калека. У мяне будуць свае дзеці, а чужых не хачу.

На ўласнай машыне ён прывёз мяне ў сваю вялікую шыкоўную кватэру і зноў сказаў:

— Будзеш тут гаспадыняй, але дзіцяці твайму, прабач, тут месца няма.

Цётка мая таксама замуж сабралася, так захапілася сваім старым лысым жаніхом, што ёй было не да маіх клопатаў.

Тады я вырашыла пазбавіцца ад Танечкі. Прыгожа яе апранула і, падвёўшы да дзвярэй дзіцячага дома, сказала:

— Ідзі туды і скажы цёцям: я хачу ў вас жыць.

— А ты, мама? Я з табой хачу... — занепакоілася дзяўчынка.

— Не бойся. Гэта будзе такая гульня. Я потым забяру цябе. Можа праз гадзінку ці праз дзве.

Я нават дзверы памагла ёй адчыніць, і калі дачушка пераступіла парог, зачыніла іх назаўсёды...

Праз некаторы час мы з Мікалаем Сідаравічам пажаніліся. І я сапраўды спачатку жыла добра. Іншы раз успамінала Танечку, нават плакала паціху, але калі нарадзілася Насця, зусім пра яе забылася.

Міналі гады. Толькі пад старасць зразумела, што мой муж мае мяне за служанку. Ён ніколі не лічыўся з маёй думкай, іншы раз пры знаёмых гасцях мог высмеяць так, што ў мяне слёзы навараचваліся на вочы, а госці няёмка глядзелі ў стол. Цярпела. А як жа: я нідзе не працавала, сядзела як у Бога за пазухай, дачка наша была забяспечана ўсім, пра што іншыя дзяўчаты нават марыць не маглі. Мы кожны год адпачывалі на моры, бывалі за мяжой. А пра тое, як жыве мая Танечка, я нават ні разу не задумалася.



Праз год Насця з Віцем загінулі ў аўтамабільнай катастрофе. Насця ўжо была цяжарная, на сёмым месяцы, і я ледзь не ашалела ад гора, ад такой невераегоднай страты.

А яшчэ праз паўтара года Мікалай Сідаравіч сабраў манаткі і пераехаў жыць да сваёй супрацоўніцы, якая была прыгожая і па ўзросту гадзілася яму ў дочкі.

— Мне надакучылі твае слёзы, твой пануры выгляд і бясконцыя скаргі на лёс. Нянькай быць табе не збіраюся. Пакідаю кватэру, мэблю. Забіраю толькі машыну і сваё адзенне. Жыві як ведаеш.

Калі за ім зачыніліся дзверы, я страціла прытомнасць, і каб неўзабаве не зайшла суседка, то можа і памерла б. З цяжкім сардэчным прыступам даставілі ў бальніцу.

Калі падлячылася, пайшла ў ЗАГС, дзе некалі распісваліся мае дочкі, знайшла тую супрацоўніцу, якая гутарыла з Таняй.

Перш чым пачаць размову, я доўга плакала, а яна, не ведаючы што са мной, супакойвала, накапала ў маленечкі кубачак валяр'янкі.

Маладая жанчына слухала мяне не перабіваючы. А калі пачала гаварыць сама, голас быў далёка не лагодны:

— Так, вы не памыліліся, гэта ваша дачка Таня Асіпчук, дзяўчынка, якой вы некалі так подла здрадзілі. Як бачыце, яна не прапала. Была ў дзіцячым доме, потым — у школе-інтэрнаце. Добрыя людзі дапамаглі атрымаць вышэйшую адукацыю. Стала эканамістам. У інстытуце пазнаёмілася з Сяргеем — сваім будучым мужам. Як закончылі вучобу, пажаніліся і паехалі жыць у Маскву. Сяргей таксама сірата, але ў Маскве ў яго жыве бабуля. Яна апісала на яго кватэру. Жылі ўтрох, а год таму назад у маладых нарадзіліся цудоўныя дзяўчынкі-блізняткі, — голас у жанчыны пацяплеў, і яна ўсміхнулася, відаць, прыгадала маіх унучак. — Мы з Таняй сябруем, і яна папрасіла мяне быць хроснай для адной з дзяўчынак. Вось так.

— У вас ёсць адрас, тэлефон? Дайце мне, калі ласка, — папрасіла я.

— Ёсць і адрас, і тэлефон, але я вам не дам нічога.

— Чаму?! Яна ж мне дачка!

— Успомнілі... Таня ўсё жыццё на вас крыўдзілася і сказала, што не даруе ніколі. Яна ўжо была разумная дзяўчынка, калі вы яе кінулі. Помніла ваша прозвішча, імя і імя па бацьку. Як падрасла, папрасіла выхавальніцу, каб дапамагла вас адшукаць. Яна хацела адпомсціць... Але выхавальніца сказала, што вы памерлі, і яна паверыла. Больш не шукала. Але яна вас ненавідзіць, разумееце? Так што змірыцеся. Ніхто вам не вінаваты...

Змірыцца я не магла. З дня ў дзень хадзіла да той жанчыны, выпрошвала адрас, тэлефон. Нумара тэлефона яна мне не дала, але адрас на паперцы напісала.

Я напісала пісьмо і кожны дзень з заміраннем сэрца чакала паштальёна. Адказ прыйшоў толькі праз месяц. У пісьме тым былі страшныя словы: *"Я вас ненавіджу. Можа гэта грэшна і жорстка, але я радуюся вашым пакутам. Па-другому не магу. Радуюся, калі думаю, што вы праведзяце астатак дзён у казённым доме, як я правяла сваё дзяцінства і юнацтва. Вы гэта заслужылі, больш не пішыце."*

Цяпер я змірылася з усім. У адзіноце чакаю смерці. Калі ж яна замарудзіць, то завязуць у дом састарэлых.

... А начамі мне часта сняцца дзве дзяўчынкі-блізняткі, мае ўнучкі, якіх я не бачыла і не ўбачу...

З павагай, **Вера Вацлаўна**

## Ян ДАНУТА

### Дарога

*Зыбаецца вузлаватая бездань часу.*
*Хто па слядах наперадзе нас?*
*— продкі,*
*А хто па слядах за намі?*
*— нашчадкі.*

*Штодня й штоночы нас дарога*
*перамагае, звяргае, калечыць,*
*А потым зноў у шляхі вымагае ісці,*
*узвышае і лечыць.*

*А хочам ад яе збегчы —*
*На дарогу ўпарцімся,*
*На дарогу супрацiўляемся,*
*На дарогу адварочваемся,*
*На дарогу аддаляемся,*
*Напінаем свае цені ўдалячыць,*
*за гарызонт.*

*Тут, у дарозе, мы даганяем*
*сваё нараджэнне,*
*Тут, у дарозе, дзень у дзень*
*намі пераймаецца смерць...*

### Парог

*Ад надакучлівасці — высокая вежа*
*з байніцамі,*
*Ад стомленасці — мяккі кажушок*
*для босых ног сяброў,*
*Ад тугі і журбы — ён белы лебедзь*
*з дужымі крыламі.*
*На ім замыкаюцца дзверы на ноч і*
*адмыкаюцца на дзень.*
*Парог вартуе гаспадароў у хаце і*
*ўсё, чым яны багаты,*
*Бо сам ён — гаспадар хаты.*

*Парог усё заўважае, улічвае*
*кожны наш крок:*
*Ацярушвае — у будучыню,*
*Апякае — у мінулае,*
*Складвае — у сёння.*

*Наноў паўстае ён стаўпом зямному*
*прыцяжэнню,*
*Наноў скіроўвае крокі боскаму*
*ўчалавечванню.*

*Усё мае свой парог: рака, рука,*
*гара, кара.*
*Усё мае свой зварот, сваё кола.*
*Не мае кола толькі парог.*
*На ім разрываецца круг...*
*Нараджаецца новае жыццё —*
*Будуецца новы парог,*
*Бо нават труне не патрэбны*
*дошкі старыя...*



## Юрына ПАТАТА

### Загадкавасць жыцця

*Жыццё — катаванне,*
*Жыццё — асалода,*
*Расчараванне*
*і дыхаць нагода.*
*Настаўнік суровы,*
*бязлітасны, строгі.*
*Жыццё — ланцугі*
*і цяжкія аковы.*
*Лістота, што ўвесну*
*ўпрыгожвае дрэвы,*
*каб песняю стаць*
*і... угнойваннем глебы.*
*Жыццё — мітусня,*
*у якой*
*можна страціць,*
*згубіць назаўсёды сябе,*
*прайсці — не прыкмеціць,*
*сустрэць — не заўважыць*
*адкрытых вачэй тых,*
*хто побач ідзе.*
*З цягніком параўнаю жыццё,*
*Бо імчыцца, як ашалелае.*
*Набывае яно розны пах,*
*розны смак:*
*сёння — духмянасць салодкая руж,*
*заўтра — прыкрасць усюды і ўсяк.*
*Як не крані яго,*
*як не руш —*
*жыццё як навала,*
*якой не чакала,*
*якой пазбягала я*
*колькі магла.*
*Знянацку мяне яно напаткала.*
*Цяпер я — прапала*
*ў няволі жыцця.*
*Колер жыццё*
*штогадова мяняе:*
*што белым было —*
*чорнай плямаю стане.*
*Шэрае і блакітнае,*
*ружовае, аксамітнае,*
*халоднае, зледзянелае —*
*жыццё мне*
*незразумелае...*

## Мікола АРОЧКА

### Асвячэнне крыніцы

*Пачуўся песняспеў... Ці я ў бары,*
*Ці ў шматкалонным залатым саборы?*
*З Жыровіч тры у рызах святары*
*Асвечваюць крыніцу ў шатах бору.*
*У зладжаным іх хоры, як бруя,*
*Хвала плыве мажорна:*
*— Радуйся!..*
*У мілагуччы быццам растварыўся я.*
*Дух над жывой вадой раскрыліўся...*
*Струмень б'е з-пад карэнняў,*
*з жарала —*
*Спакон з пластоў лясной*
*замшэлай кручы,*
*Каля аселіц слыннага сяла,*
*Адкуль здавён — і мой выток гаючы.*
*Вялікая Кракотка! Пяць крыніц*
*Трывожна змалку праз мой лёс бруіцца.*
*Ды больш я прыпадаў дрыготка ніц*
*Да гэтай, да Скуратавай крыніцы.*
*Над ёй галіны ў банціках і стужках,*
*У крыжыках, заломах і вузлах.*
*Анёламі над ёю крыллі птушак*
*Прэч гоняць цені немачы і зла!*
*Гаіўся ў той крыніцы боль вайны,*
*Мяшаліся з бруёю кроў і попел.*
*А колькі сумных костак груганы*
*Здзяўблі пад шатамі над ёй употай!*
*Кружылі "вораны", як колісь віжы,*
*І парадзела знанае сяло.*
*Як ты ў стагоддзях,*
*родны люд мой, выжыў?*
*Са тла ўставаў і падаў зноў у тло...*

*Тры святары у сцішаным маленні*
*Глядзяць, як жвір варушцца на дне.*
*Ахвярны плён змагарных пакаленняў*
*Свяшчэннадзейства ваша хай кране!*
*Прашу вас, пасярэднікі нябёсаў,*
*Малітвай напатольце вы крышталь*
*Крыніцы спадчыннай, каб срэбра хваль*
*Нашчадкам стала,*
*— як мацунак лёсу!*
*Няйнакш, вяшчунна*
*ўзнёсся ваш мажор:*
*— О, ра-дуй-ся!..*
*Гаючасць ад напасці*
*Адсюль — і праз Жыровіцкі сабор —*
*Нясе крыніца ў свет, нібы прычасце.*
*в.Вецявічы, 1999 г.*

### Слонімшчына

*Слонімшчына, ты маё радовішча*
*Скарбаў беларускае душы.*
*Слонім, сваё вобразнае прозвішча*
*Ты над Шчарай збройна заслужыў.*

*Крутагор'е левага ўзбярэжжа,*
*Нібы шчыт — на злом ліхіх мячоў.*
*Твае воды і байніцы-вежы*
*Засланялі край ад прыбышоў.*

*Памагаў ты Вітаўту карону*
*Уздзець на незалежнае чало.*
*Свой статут Сапега, як заслону,*
*Акрапіў, каб права тут цвіло.*

*Тое права ў гуках "Паланеза"*
*Са слязой Агінскі бараніў.*
*Слонімшчына, колькі ты жалеза*
*Ржавага сабрала з родных ніў!*

*Каліноўскі ў гушчах Мілавідаў*
*Гартаваў на бітву збройны чын.*
*Слонім ваяроў сваіх не выдаў*
*І не здаў ад вольнасці ключы.*

*Гэта тут над нашым краем краты*
*Наш Таўлай стаў вершам пілаваць.*
*Моцна нас абняў трыццацьдзевяты,*
*Аж і сёння костачкі хрумсцяць...*

*Шэсцьдзесят прайшло за шасцістамі,*
*За смугою тысячы гадоў.*
*Тут зямля слыла б Гаспадарамі,*
*Каб не град на цвет Гаспадароў!*

*Гаспадар — святы наш хлебадар!*
*Але ж кажуць: не адзіным хлебам...*
*Хлебам тады шчодры Гаспадар,*
*Клі духам шчодры з роднай глебы!*

*Я — адзін са спадкаемцаў сціплых*
*Роднай мовы, духу спелых ніў.*
*Я прашу, як колас, што тут выплыў,*
*Слонімшчына, ад віхраў заслані!*
*07.01.2000г. в.Вецявічы*

## Мікола КАНАНОВІЧ

# ПАЧАТАК

**(Апавяданне)**

**1**

Яна засталася на лецішчы адна. Бацька тэрмінова з'ехаў у Мінск, не патлумачыўшы прычыну. Сказаў, што яна ўжо вялікая дзяўчынка і каб не баялася ноччу адна, паглядзела вечарам тэлевізар і клалася спаць...

Дзяўчыну агарнула такое частае апошнім часам пачуццё незразумелага тамлення і трывогі.

Паволі згасаў летні дзень. Чырвоны шар сонца вось-вось павінен быў схавацца за зубчатым краем бору, калі з дарогі да суседскага лецішча завярнула "Волга". Дзяўчына бачыла, як з машыны з пакункамі выйшлі яе знаёмы Славік і яго брат з жонкай.

"І чаго ты сюды прыпёрся? Не разумееш, хіба, што сваёй прысутнасцю толькі перашкаджаеш гэтай шчаслівай парачцы," — са злосцю падумала пра свайго суседа Вераніка, але сама наўмысна выйшла на ганак, каб яе ўбачылі...

Славік, шаснаццацігадовы бландзін крыху вышэй сярэдняга росту, самы звычайны хлопец, крыху іграў на гітары і меў даволі прыстойны голас. Асабліва любіў спяваць "пад Высоцкага і Акуджаву". Вераніка ўжо не раз была з ім у адной кампаніі тут на лецішчы. Але сёння, ведала, кампанія не збярэцца. Нядзеля. Усе знаёмыя паехалі ў горад...

Пакуль дзяўчына так разважала, яе заўважылі.

Сонца слала на зямлю апошнія промні, і калі Славік махаў са свайго падворка рукой, то ў чырвоным святле захаду здаваўся Вераніцы залатым. "Таксама мне, залаты Бог,"— успомніла нядаўна прачытанае з Караткевіча, а ногі самі ўжо вялі да суседскай агароджы.

— Здарова была, суседка! Як жывеш-маешся? Дзе твой прафесар? — Славік блюзнерскі сыпаў пытаннямі і не мог сцерці з твару шчаслівай усмешкі, быццам толькі ўчора, а не месяц таму здаў апошні выпускны экзамен у школе.

Васьмікласніца Вераніка ліхаманкава шукала патрэбныя словы, каб "у жылу" адказаць, як яна лічыла, гэтаму дарасламу недараслю, але словаў, як на тое, не знаходзілася.

"Вось жа гад, — злавала дзяўчына, — і з чаго гэта табе так добра, быццам таму сабаку, што з ланцуга сарваўся?.."

— Ну, дык што, прыйдзеш на вячэру праз паўгадзінкі? Старога ж твайго ўсё роўна дома няма, дык чаго сядзець, кіснуць — у нас вінцо, гітара, пасядзім, пасяваем, пабалакаем? — суняўся, нарэшце, на пытальнай ноце Славік.

**2**

Круцілі "Rolling Stones". Славікава сваячніца ўжо паспела пераапрануцца ў дамашні халат з тонкай тканіны з глыбокім дэкальтэ і расстаўляла на стале талеркі з закускамі і садавінай.

Вераніка на хвіліну затрымалася ў парозе, але не паспела павітацца, як сваячніца загаварыла першай:

— А-а-а! Наша юная госця. Праходзьце, праходзьце, мамзэль. Славік казаў, што вы павінны быць. Дарэчы, мужчыны нашы зараз спусцяцца зверху. А пакуль сядайце, слухайце музыку.

Вераніка адчула ў словах гэтай ажно занадта прыгожай жанчыны дрэнна прыхаваную іронію, і гэтае "нашы" у адрас мужа і Славіка гучала для Веранікі незаслужаным авансам. Дрыготкі халадок трывогі пракаціўся ў грудзях: "Нешта павінна адбыцца важнае, і абавязкова гэта павінна здарыцца сёння..," — маланкай праняслося ў галаве дзяўчыны, пакуль віталася з Тамарай і ішла да стала з намерам дапамагчы расставіць посуд.

— А сёння ў нашым клубе будуць танцы, Вера-Вераніка. І нагода ёсць — ужо год, як мы з Эдзікам пажаніліся. А каб табе ўсё было зразумела, Славік напрасіўся ехаць... э-э-э, як бы гэта правільней сказаць: "Умереть бы мне в этой клетке, если б не было милой соседки..." Карацей, менавіта з-за вас, мілая зорка-Венера. Ведаў аднекуль, што вы тут адна сумуеце... Ах, моладазелена! — скончыла гаварыць Тамара, салодка пацягнуўшыся, і паказала рукой на лесніцу: — О, а вось і нашы джэнльтмены, як брэменскія музыкі, з гітарай сунуцца.

**3**

Лёгкае віно прыемна кружыла галаву. Тамара з Эдзікам пайшлі наверх, пажадаўшы ім прыемнай ночы. Славік прапанаваў Вераніцы правесці яе дамоў, хоць ісці было — дваццаць крокаў.

— Зойдзеш? — спытала яна на ганку ў раптоўна змоўкнуўшага хлопца і адчыніла дзверы.

Яны не размаўлялі. Вераніка нават не запальвала святло. Адразу пачала распранацца. Ёй было смешна назіраць, як у Славіка дробна трымцелі рукі, калі ён расшпільваў гузікі на кашулі.

Ад прагных, нават балючых пацалункаў хлопца хваля нястрымнай гарачыні пракацілася ад грудзей па ўсім целе дзяўчыны. Незразумелае ёй раней тамленне ператварылася ў неадольнае жаданне спатолі. Але ў Славіка нешта не атрымлівалася...

Здаецца, тысячу разоў потым Вераніка спрабавала прааналізаваць свае паводзіны і дзеянні ў тую ноч...

Яна дапамагла яму і сабе зрабіць тое галоўнае, пасля чаго жыццё дзеліцца "да таго, як" і "пасля таго"...

Боль быў раптоўным, зусім нечаканым, але і такім жа кароткім. І амаль адразу прыйшло яно: збавенне, спатоля, нірвана...

Славік вельмі хутка засабіраўся дамоў, ці, можа, гэта ёй толькі так здалося. Больш ён яе не цікавіў, і калі апранаўся, то ў месячным святле здаваўся ўжо не залатым Богам, а нейкім мітуслівым бляклым прывідам.

**4**

Раніцай яна адна купалася ў лясным азярцу, дзе заўсёды была халодная вада, і не адчувала холаду. У целе была незвычайная сіла і моц. А калі вярталася назад, то ўбачыла, што ля суседскага лецішча "Волга" ужо не стаяла. "Вось і добра, вось і ладненька," — толькі і падумала.

Бацька вярнуўся ў другой палове дня. Змрочны, нейкі не падобны на сябе звычайнага. Вераніка нічога не пыталася. Калі вячэралі, ён загаварыў сам:

— Ёсць дзве навіны, дачка. Першая — праз месяц я еду чытаць лекцыі ў Германію... — Тут ён зрабіў нязвыкла доўгую для сябе паўзу, — а другая... Я, відаць, разыдуся з тваёй маці...

Ніколі яшчэ Вераніка не бачыла такіх вачэй бацькі, як пасля апошніх слоў. Яны... малілі аб спагадзе.

— Не трэба, тата, не трэба вам разыходзіцца. Я цябе так люблю, так люблю!.. А маці... Табе хопіць маёй любові, а маці хай сама.., як хоча...

Вераніка і сама не вельмі добра разумела, што казала бацьку, але па яго вачах убачыла, што менавіта гэта ён і хацеў пачуць. І яшчэ яна зразумела тады, што знайшла ў бацьку самага вялікага, самага сапраўднага свайго сябра, які ніколі не здрадзіць, але заўсёды будзе раўнаваць яе да іншых. А тых іншых, вырашыла Вераніка, у яе будзе многа, можа нават вельмі многа. Ні тое, што ў маці — здрадзіла бацьку са старэйшым і... тоўстым(!) адстаўнікам...

У свае няпоўныя трынаццаць гадоў Вераніка пачынала дарослае жыццё.

## Янка КАРПОВІЧ

### Мроіцца шлях наш да сонца

*Чорныя крылы неба*
*Сёння закрылі аблокі.*
*Чорныя постаці, чорная глеба —*
*Як нам да Бога далёка!*

*Мроіцца чыстае неба,*
*Мроіцца шлях наш да сонца,*
*Колькі пакутаваць трэба*
*Клятаму ўсімі бясконца?*

*Вечна ў надрыве, пакутах*
*Цяжка ідзеш ты да мэты.*
*Скінь жа, народ, свае путы*
*І не пакутуй праз гэта.*

